■ НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

## Адкрыты ліст

**Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў звярнуўся са зваротам да міністра унутраных спраў Беларусі Уладзіміра Навумава з адкрытым лістом. Прычына – збіццё і абрабаванне ў Мінску нашага земляка прафесара Адама Мальдзіса. Сп. У. У. Навумаву:**

"Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч! 23 верасня 2002 г. на ведамага ў Беларусі і ва ўсім цывілізаваным свеце навукоўца, пісьменніка і энцыклапедыста Адама Мальдзіса, быў здзейснены бандыцкі напад. Каля пад'езда ўласнага дома пісьменніка жорстка збілі і абрабавалі.

Апошнім часам у нашай краіне, дзе супрацоўнікаў міліцыі болей, чым вайскоўцаў, склалася заганная практыка нападу на знакамітых і простых людзей, іх збіццё і рабаванне. Дастаткова толькі прыгадаць напады на рэжысёраў Мазынскага і Хашчавацкага, гісторыка і палітыка Караля, лідэра партыі «Надзея» Палевікову і яе мужа. І вось рука злачынца, якраз напярэдадні пісьменніцкага з'езда, паднялася на Адама Мальдзіса, чалавека, які варты не адной дзяржаўнай узнагароды.

Ніводнае злачынства не раскрытае.

Зыходзячы з вышэйсказанага, прапаную Вам, шаноўны спадар Міністр, узяць расследаванне справы Мальдзіса, а таксама іншых названых мною людзей, на асабісты кантроль".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПРАФЕСІЯ

# Злачынца знойдуць. Хаця б па паху

**МАЛАДЗЕЧНА. Работа транспартнай міліцыі, магчыма, нагадвае гаданне на картах ці па руцэ. Трэба заўсёды прадбачыць, дзе можа хавацца злачынец, як ён будзе сябе паводзіць... Толькі ў адрозненне ад гадалак "транспартнікі" не маюць права памыляцца.**

### Што было

Заўтра споўніцца 85 год крымінальнаму вышуку на транспарце.

З 1944 года ў Маладзечне было створана падраздзяленне транспартнай міліцыі. Абслугоўвала яно тады наш рэгіён, а таксама Мінскі, Лідскі і Докшыцкі раёны.

У 1997 годзе падраздзяленне стала аддзелам ўнутраных спраў на транспарце. Цяпер яно дзейнічае на тэрыторыі, якая амаль дакладна супадае з межамі нашага рэгіёна. Лічыцца адным з лепшых у рэспубліцы, бо раскрыццё злачынстваў вышэй за 90%.

### Што ёсць

Начальнік аддзела крымінальнага вышуку Юрый Тонкавіч гаворыць, што кожны дзень працы транспартнай міліцыі не падобны адзін на другі.

Часам, каб выявіць і затрымаць злодзея, супрацоўнікам прыходзіцца майстраваць хімлавушку. Бярэцца фарбавальнае рэчыва, маленькія крупінкі пылу якога падаюць на адзенне, скуру. Калі накіраваць ультрафіялетавыя промні на чалавека, гэтыя крупінкі свецяцца.

Па фотаздымку вызначаюць прыкладны рост чалавека. Злачынца знаходзяць нават па паху, дзе ён быў або да чаго дакранаўся. Пінцэтам кладуць на паверхню стэрыльную анучку. Зверху абавязкова трэба накрыць яе, каб не было доступу паветра. Праз пэўны час перакладаюць у стэрыльны слоік. Потым пачынае "працаваць" сабака.

Без тэхнічных прыбораў таксама справа не абыходзіцца. У памяшканні транспартнай міліцыі ёсць фоталабараторыя. Прыкладам, з дапамогай апарата "Уларус" разглядаюць усё ў павялічаным памеры. На ім жа вывучаюць адбіткі пальцаў, далоняў. З гэтага можна даведацца, працуе чалавек цяпер ці не. Па колькасці папілярных ліній у 1 кв.см вызначаецца прыкладны ўзрост чалавека.

### Што будзе

Напэўна, і далей транспартная міліцыя будзе плённа працаваць і раскрываць усе злачынствы. Як і тое, што нядаўна адбылося ў Красным.

...Касірка, якая прадавала білеты на станцыі Уша, а 10-й гадзіне вечара адлучылася на паўгадзіны. За гэты час чатыры 17-18-гадовыя вяскоўцы выкралі больш за 700 тысяч рублёў. Частка грошай знаходзілася ў сейфе, астатняя – у стале. Праз 7 дзён злачынцаў знайшлі.

**Ірына РАБУШКА.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Старшы эксперт-крыміналіст Аляксандр Мароз вывучае фотаздымкі на апараце «Уларус».**

## «Залатое» вяселле

**МЯДЗЕЛ. Надоўга запомніць гарадское свята да Дня пажылых людзей сям'я Каўрусаў з райцэнтра.**

Зноўку, як і 50 год таму, ім давялося рэгістраваць свой шлюб –– работнікі ЗАГСа так адзначылі іх "залатое" вяселле. Былі для Андрэя Сцяпанавіча і Лідзіі Пятроўны пажаданні, падарункі, не адзін раз крычалі ім «Горка».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Новы ксёндз

**У касцёле Святога Міхала-Архангела перамена – да абавязкаў пробашча прыступіў новы ксёндз Здзіслаў Ведэр.**

Ён прыехаў з Масквы, дзе 10 гадоў працаваў адказным пастырам усіх прадстаўнікоў Закона Салезьянцаў на тэрыторыі былога Саюза. Да гэтага выконваў свае абавязкі ў Варшаве, Лодзі, Любліне. Яму 67 гадоў, 40 з якіх ён з'яўляецца святаром. Айцец Генрых Куляшэвіч, які працаваў у Смаргоні дагэтуль, стаміўся, і стан здароўя вымусіў яго пакінуць пасаду ў 73 гады. Ён вярнуўся ў Польшчу.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

## З нас па рублю – Беларусі на бібліятэку

**МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ да абвяшчэння каналам АНТ тэлемарафону па збору сродкаў на ўзвядзенне новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, калектыў цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М.Багдановіча ўстанавіў у фае бібліятэкі скрыню для грашовых ахвяраванняў на высакародную справу.**

На вялікі жаль, наведвальнікі бібліятэкі доўга не заўважалі ні абвесткі аб правядзенні акцыі, ні самой скрыні. Першым, хто ахвяраваў пэўную суму, стаў дырэктар будаўнічага ліцэя №21 **Міхаіл Шніп**. Штосьці сімвалічнае ёсць у гэтым факце: будаўнікі з ахвотай "скідваюцца" на аб'ект, які ім жа і ўзводзіць.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Адкрыты памятны крыж

**ВІЛЕЙКА. 27 верасня ў дзень святкавання Узвіжання Святога і Жыватворнага Крыжа Гасподняга каля Родзевічаў паблізу шашы Вілейка-Смаргонь на высокім насыпаным кургане быў урачыста адкрыты памятны крыж.**

На гэтым месцы раней знаходзіліся салдацкія могілкі воінаў рускай арміі, якія загінулі ў гады першай сусветнай вайны.

У 30-х гадах мінулага стагоддзя свяшчэннае месца было апаганенае. Тут зрабілі кар'ер, жвір з якога вазіўся на будаўніцтва дарогі. Разам з зямлёй у кузавы машын, а затым і на палатно дарогі траплялі і чалавечыя астанкі. Зверху яны прыкачваліся асфальтавым пакрыццём. Так дарога каля Рускага Сяла стала новай брацкай магілай.

Вялікую арганізатарскую і будаўнічую работу па ажыццяўленні ўласнага праекта правёў мастак Барыс Цітовіч з вёскі Забродзе.

Частку грошай на работы выдзеліла Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, аднак яны засталіся б мёртвым грузам без дапамогі мясцовай улады, калгаса "XXI з'езд КПСС", ДРБУ-162, РЭС, а таксама шчырых і неабыякавых да людской і гістарычнай памяці людзей.

Помнік увянчалі ікона XII стагоддзя "Спас-Нерукатворны", выява Георгіеўскага крыжа.

Фота Анатоля РОГАЧА.

**Анатоль РОГАЧ.**

■ КАНЦЭРТ

## «Калі ласка, будзьце побач»...

**ВІЛЕЙКА. Сёння а палове шостай гадзіны ў Палацы культуры пройдзе канцэрт заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Нэлі Багуслаўскай і кампазітара Ізмаіла Капланава.**

Яны прывезлі вядомую праграму "Калі ласка, будзьце побач". У канцэрце прыме ўдзел паэт-песеннік **Алег Жукаў**, аўтар папулярных песень.

Канцэрт ладзяць раённы аддзел культуры сумесна з раённым аддзелам адукацыі. Прысвечаны Дню настаўніка.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПРЭМ'ЕРА

## Тэатр лялек «Батлейка» запрашае

Петрык – гэта сапраўдны тыгр, толькі маленькі. Калі ён падрасце, то стане дужым, моцным і смелым, і зваць тады яго будуць тыгр Пятро. Але пакуль ён – неразумнае дзіця, якое ўсяго баіцца, хаця мае кіпцюры і вострыя зубы. За тое, што ён баязлівец, у яго адабралі чорныя тыгрыныя палосы. І тады Петрык вырашае знайсці адвагу ў вялікім мегаполісе з самымі разнастайнымі нечаканасцямі і небяспечнасцямі. Да чаго прыводзіць гэтае падарожжа, пакуль што тайна...

Запрашаем вас разгадаць яе разам з артыстамі тэатра лялек "Батлейка", якія ствараюць сучасны музычны спектакль разам са сваімі сябрамі – жыхарамі незвычайнай краіны Звярыніі.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ, артыстка тэатра.**

## «Маладзечна-2003»

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак наведаў горад кіраўнік дзяржаўнага эстраднага аркестра Міхаіл Фінберг.**

На яго сустрэчы са старшынёй гарвыканкома Мікалаем Чурсіным абмяркоўвалася, які будзе чарговы фестываль беларускай песні і паэзіі ў наступным годзе. Мяркуецца, што правядуць яго напачатку лета. Мерапрыемствы пройдуць на Цэнтральнай плошчы і ў новым Палацы культуры.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ІНІЦЫЯТЫВЫ

# Віляйчан турбуе здароўе

**ВІЛЕЙКА. Як паказала апытанне віляйчан, для большасці з іх найбольшую трывогу выклікае праблема здароўя. Аб гэтым гаварылася 25 верасня на "круглым стале", які прайшоў у межах грамадскай ініцыятывы "Клуб "Віляйчане".**

На ім прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, улады, бізнесу, дзяржаўных структур, сродкаў масавай інфармацыі і асобныя грамадзяне азнаёміліся з вынікамі анкетавання віляйчан. Апытанне праводзілася для выяўлення прыярытэтных сацыяльных праблем горада. Акрамя гэтага стала бачным стаўленне гараджан да ініцыятывы "Клуб "Віляйчане". Яе сустрэлі прыязна. З 400 апытаных толькі 2 чалавекі выказаліся адмоўна.

Здароўе – найважнейшая праблема ў адпаведнасці з вынікамі апытання. Удзельнікі "круглага стала" выказалі шмат ідэй і прапаноў да дзейнасці клуба ў вырашэнні праблемы росту алкагалізму. Не засталіся па-за ўвагай і выхаванне, занятасць, сям'я, экалогія, правапарадак.

Пачалася падрыхтоўка да акцыі пад назвай "Чысты горад". Гэта першае мерапрыемства, якое будзе ладзіць ініцыятыва "Клуб "Віляйчане". Арганізатары разлічваюць на супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі, органамі ўлады, бізнесам і гараджанамі. Правядзенне акцыі запланавана на другую палову кастрычніка.

Ініцыятыва "Клуб "Віляйчане" ўзнікла пры падтрымцы амерыканскай Праграмы партнёрства Альянса Каунтэрпарт.

Ініцыятыўная група бачыць клуб "Віляйчане" як супольнасць структур і асобных грамадзян, здольных на сумесную канструктыўную працу па вырашэнні лакальных грамадскіх праблем на глебе агульначалавечых каштоўнасцей.

Старшынёй створанага клуба стаў намеснік дырэктара па вучэбнай часткі СШ№4 Станіслаў Туровіч. Пакуль у складзе клуба больш за 30 чалавек.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ, Ірына РАБУШКА.**

■ ТЭАТР

## Рэпертуар

### Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на кастрычнік 2002 года

| | | | |
|---|---|---|---|
| субота, | 5.10. | Ул. Грамовіч. | "Тыграня Петрык" |
| нядзеля, | 6.10. | Ул. Грамовіч. | "Тыграня Петрык" |
| субота, | 12.10. | Я.Сперанскі. | "Незвычайныя спаборніцтвы" |
| нядзеля, | 13.10. | А.Жугжда. | "Казкі з куфэрка" |
| субота, | 19.10. | П.Васючэнка. | "Страшнік ГАМ" |
| нядзеля, | 20.10. | В.Швэмбергер. | "Маша і мядзведзь" |
| субота, | 26.10. | С.Кавалёў. | "Піліпка-сынок" |
| нядзеля, | 27.10. | В.Карастылёў. | "Доктар Айбаліт" |

Пачатак спектакляў у 12 гадзін. Каса працуе з 10 гадзін.

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасу: вул.Драздовіча, 5-в. Даведкі па тэл. 5-36-73, 6-84-27.

## Чыстыя ветэраны

**СМАРГОНЬ**. Прыемная навіна для ветэранаў Вялікай Айчыннай – літаральна на днях гарадскія ўлады прынялі рашэнне браць з іх толькі 50% за тое, каб пастрыгчыся ў дзяржаўных цырульнях і памыцца ў лазні. У раёне засталося 218 ветэранаў. 118 з іх жыве ў Смаргоні.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

